*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 5 (1312) 1 ЛЮТАГА 2017 г.**


## Варкшоп на тэму: “Мовы навучання...”

28 студзеня 2017 года Грамадскі Балонскі камітэт у межах абмеркавання Кодэкса аб адукацыі праводзіў варкшоп на тэму: “Мовы навучання: правы акадэмічных супольнасцяў на выкарыстанне моў навучання”.

Падчас сустрэчы прагучалі наступныя паведамленні:

1. Беларускамоўнае навучанне ў сістэме адукацыі Рэспублікі Беларусь (*Алена Анісім, намеснік старшыні ТБМ, дэпутат Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь*).

2. Нацыянальныя і англійская мовы ў Еўрапейскай прасторы вышэйшай адукацыі (*Павел Церашковіч, эксперт Грамадскага Балонскага камітэта*).

Пасля выступаў былі абмеркаваныя наступныя пытанні:

- Інструменты і перспектывы стварэння беларускамоўнай вышэйшай школы.

- Беларусізацыя і інтэрнацыяналізацыя: пошукі залатой сярэдзіны.

- Дарожная карта рэфармавання вышэйшай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь і моўныя пытанні.

- Юрыдычныя аспекты беларусізацыі ВНУ: праект прапаноў у Кодэкс аб адукацыі Беларусі.

3. У межах праграмы варкшопу адбылася спецыяльная падзея - прэзентацыя праекту "Гласарый Балонскага працэсу". Яго асаблівасцю з'яўляецца тое, што ён падрыхтаваны як пераклад наўпрост з англійскай на беларускую мову.

У мерапрыемстве бралі ўдзел вядомыя грамадскія дзеячы Алег Трусаў, Уладзімір Колас, Лявон Баршчэўскі, сябры аргкамітэта па стварэнні Нацыянальнага ўніверсітэта з беларускай мовай навучання, журналісты і іншыя зацікаўленыя асобы.

***Наш кар.***

## Беларуская мова стала карпаратыўнай і камунікацыйнай мовай Лідскага піўзавода




Акцыянернае таварыства "Лідскае піва" цалкам абнавіла свой сайт - ад 24 студзеня ён стаў беларускамоўным, а таксама змяніў адрас - lidskae.by.

Кампанія пераводзіць сваю камунікацыю ў інтэрнэце і маркіроўку прадукцыі на беларускую мову. Сайт пазнавальны не толькі апісаннем гатункаў піва ды іншых напояў, але і змешчанай на ім інфармацыяй аб гісторыі бровара.

Галоўны маркетолаг ААТ "Лідзкае піва" Наталля Яфімкіна расказала Свабодзе, што беларускую версію сайта рыхтавалі ўжо даўно. Паводле яе, дырэктар прадпрыемства яшчэ летась аб'явіў, што над гэтым вядзецца праца і ў хуткім часе камунікацыя кампаніі пераводзіцца на беларускую мову. Новы сайт будзе развіваць карпаратыўную сацыяльную місію завода па пашырэнні выкарыстання беларускай мовы ў кампаніі і за яе межамі

Наталля Яфімкіна кажа, што рашэнне пра беларусізацыю камунікацыі кампаніяй прымалася на падставе перш за ўсё таго, што "Лідскае піва" - кампанія з беларускімі каранямі, яе гісторыя налічвае 140 гадоў. На прадпрыемстве лічаць, што беларуская мова набірае папулярнасць у людзей, і для прадпрыемства было цалкам натуральным тое, каб на беларускім рынку кампанія камунікавала на беларускай мове. Частка прадуктаў ААТ "Лідскае піва" - піва "ЛІДСКАЕ" і крафтавая "Калекцыя Майстра" - ужо "камуніцыруюць" са спажыўцамі па-беларуску.

Паводле спадарыні Наталлі, частка іх прадукцыі з этыкеткамі на беларускай мове таксама накіроўваецца на экспарт у іншыя краіны. Напрыклад, піва "Аксамітнае".

Усяго ў сайта будзе 3 моўныя версіі: руская і ангельская запрацуюць у лютым. Карыстальнікі змогуць чытаць сайт на той мове, на якой яны лепш успрымаюць інфармацыю, - адзначыла Ірына Капілава, дырэктар па маркетынгу ААТ" Лідскае піва".

***Радыё Свабода.***


ISSN 2073-7033


9 772073 703003 >


## 440 гадоў з дня нараджэння Мялеція Смтрыцкага

**Мялецій СМАТРЫЦКІ**, свецкае імя Максім (каля 1577, с. Смотрыч, цяпер пасёлак гарадскога тыпу Хмяльніцкай вобласці Украіны - 27 снежня 1633, Дзермань; псеўданімы: Тэафіл Артолаг) - вялікалітоўскі філолаг, грамадска-палітычны і царкоўны дзеяч, старабеларускі пісьменнік-палеміст, полацкі праваслаўны архіепіскап (з 1620), архімандрыт манастыра ў Дзермані, сын пісьменніка-палеміста і педагога Герасіма Смтрыцкага.



Адукацыю атрымаў у гэтак званай Астрожскай акадэміі. Лічыў сябе вучнем Кірылы Лукарыса - вучонага грэка, пазней канстанцінопальскага патрыярха. Пазней пры падтрымцы кіеўскага ваяводы Канстанціна-Васіля Канстанцінавіча Астрожскага вучыўся ў езуіцкай акадэміі ў Вільні, якую, хутчэй за ўсё, не скончыў з невядомых прычын. Працягнуў навучанне ў пратэстанцкіх акадэміях Германіі (Лейпцыга, Вітэнберга), з 1601 года суправаджаў як дарэктар маладога праваслаўнага князя Багдана Саламярэцкага. Потым жыў у маёнтку Саламярэцкіх каля Менска. Уступіў у Віленскае праваслаўнае брацтва пры Траецкім манастыры,

У 1616 г. друкарня Віленскага праваслаўнага брацтва ў Еўі, надрукавала "Евангелле вучыцельнае" з прадмовай Максіма Герасімавіча.

Паміж 1617 і 1618 гадамі Максім Герасімавіч стаў манахам у віленскім манастыры Святога Духа пад імем "Мялецій". Працаваў у брацкай школе манастыра, быў рэктарам кіеўскай брацкай школы (1618-1620). Вынікам педагагічнай дзейнасці стала "Граматыка славенска, правільней сінтагма" (Еўе, 1618-1619). У "Граматыцы" аўтар аспрэчваў папрок Пятра Скаргі ў адрас царкоўнаславянскай мовы, што на гэтай мове немагчыма развіваць навукі, і сцвярджаў яе роўнасць грэцкай і лацінскай мовам. "Граматыка" Мялеція стала важным фактарам развіцця ўсходнеславянскай духоўнай культуры, неаднаразова перавыдавалася і да XIX стагоддзя была ў праваслаўным свеце найбольш аўтарытэтным і ўжываным падручнікам па славянскім мовазнаўстве; двойчы выдавалася ў горадзе Маскве, урыўкі з яе Ілля Капіевіч надрукаваў у Галандыі. Міхаіл Ламаносаў назваў яе "брамай вучонасці". У XVIII - 1-й палове XIX стагоддзя "Граматыка" стала ўзорам для сербскай, харвацкай, румынскай і балгарскай граматык. Пад канец жыцця перайшоў у Унію.

***Вікіпедыя.***

## 115 гадоў з дня нараджэння Станіслава Грынкевіча



Беларускі грамадскі і палітычны дзеяч **Станіслаў ГРЫНКЕВІЧ** нарадзіўся 2 лістапада 1902-га году ў вёсцы Новы Двор на Сакольшчыне. Да беларускага нацыянальнага руху далучыўся вельмі рана, калі вучыўся ў Гарадзенскай гімназіі, жыў у свайго дзядзькі, ксендза і беларускага асветніка Францішка Грынкевіча. Пазней вучыўся на медыцынскім факультэце Віленскага ўніверсітэта. У 1920-ых навучаўся ў Чэхаславаччыне. Закончыў Познаньскі ўніверсітэт па спецыяльнасці псіханеўралогія і гігіена. Працаваў у клініках Познані, на Беласточчыне - у псіхлякарні ў Харошчы. З 1938-га жыў у Вільні.

Станіслаў Грынкевіч стаў адным з лідараў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі ў Заходняй Беларусі. Аўтар шматлікіх артыкулаў і брашураў па медыцыне на беларускай і польскай мовах. Як лекар апублікаваў разам са сваёй жонкай Ядвігай Грынкевіч тры выпускі папулярнай навукова-практычнай манаграфіі "Рады хворым і здаровым" (Ч. I-III., Вільня, 1935-39). У 1936 годзе яго брашура "Асвета" была канфіскаваная паліцыяй, а сам аўтар аштрафаваны і на два тыдні зняволены.

Пра шырыню светагляду, навукова-асветнага, літаратурнага і тэатразнаўчага прафесіяналізму Станіслава Грынкевіча найлепш сведчаць ягоныя кніжкі: "Аб тэатры" (1927), п'еса "Жанімства па радыё" (1927), "Асвета" (1936) і інш. Быў выдатным публіцыстам, супрацоўнікам газеты "Беларуская крыніца", часопісаў "Калоссе", "Студэнцкая думка, "Шляхам моладзі", "Хрысціянская думка", іншых беларускіх выданняў Заходняй Беларусі.

Супрацаваў з лідарам Беларускай хрысціянскай дэмакратыі Адамам Станкевічам, у 1931-36 гг. выбіраўся віцэ-старшынём гэтай партыі.

У 1939-ым Грынкевіч быў арыштаваны карнымі органамі савецкай улады, але яму ўдалося ўцячы з цягніка, якім яго перавозілі. У час Другой сусветнай вайны - дзеяч канспірацыйнага падпольнага Беларускага Народнага Аб'яднання, быў сувязным з польскім падполлем. Летам 1944-га арыштаваны органамі НКУС. Быў перавезены ў Менск, пасля ў Магілёў. Паводле адных звестак 25 ліпеня 1945-га расстраляны ў Магілёве, паводле іншых - закатаваны ці памёр у менскай вязніцы ў 1945-ым ці 1946-ым.

***Вікіпедыя.***



# План дзейнасці

## Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" на 2017 год

| № | Назва мерапрыемства | Тэрмін выканання | Адказны за правядзенне |
|---|---|---|---|
| 1. | **Асветніцкая і педагагічна-псіхалагічная праца:**<br>- з бацькамі, дзеці якіх пойдуць у дзіцячыя садкі і першыя класы ў 2017-2018 навучальным годзе;<br>- з бацькамі і іх дзецьмі, якія навучаюцца ў рускамоўных і беларускамоўных адукацыйных установах;<br>- з арганізацыямі і ўстановамі з мэтай прапаганды беларускай мовы і літаратуры;<br>- правядзенне курсаў беларускай мовы і беларусазнаўства;<br>- звярнуцца да дзяржаўных і недзяржаўных тэлеканалаў па дапамогу ў стварэнні беларускамоўных класаў. | На працягу года | Бацькоўскі камітэт, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 2. | **Праца рэгіянальных арганізацый ТБМ па захаванні і адкрыцці беларускамоўных адукацыйных устаноў**: збор подпісаў, лісты ў дзяржаўныя ўстановы, пікеты і інш. | На працягу года | Рэгіянальныя структуры ТБМ, Мінская гарадская арганізацыя ТБМ, Сакратарыят (каардынацыя) |
| 3. | **Супрацоўніцтва** з дзяржаўнымі структурамі па пытанні выкарыстання дзяржаўнай беларускай мовы, у тым ліку з мэтай захавання і пашырэння беларускай тапанімікі, з Міністэрствам сувязі па пытаннях выпуску беларускамоўнай прадукцыі. | На працягу года | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 4. | **Супрацоўніцтва** з банкаўскімі структурамі па пытаннях афармлення на беларускай мове бланкаў, рэквізітаў і іншай банкаўскай прадукцыі. | На працягу года | Сакратарыят |
| 5. | **Супрацоўніцтва** з БГТРК па пытанні беларусізацыі беларускага тэлебачання. | На працягу года | Сакратарыят |
| 6. | **Праца з прадпрыемствамі** па ўкараненні беларускамоўнага афармлення выпусканай прадукцыі. | На працягу года | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 7. | **Работа па пашырэнні кола падпісчыкаў і чытачоў** на "Наша слова", "Новы час ", "Верасень" і іншыя беларускамоўныя газеты і часопісы. | На працягу года | Сакратарыят, першасныя суполкі ТБМ |
| 8. | **Правядзенне гістарычных і літаратурных сустрэч.** | На працягу года | А. Трусаў |
| 9. | **Святкаванне Міжнароднага дня роднай мовы.**<br>Правядзенне круглых сталоў, сустрэч з чытачамі (разам з пісьменнікамі і журналістамі).<br>Першы этап Агульнанацыянальнай дыктоўкі - 21 лютага, 2-і этап - 15 сакавіка, 3-і этап - 25 сакавіка. | 21 лютага<br>15 сакавіка<br>25 сакавіка | Сакратарыят, Мінская гарадская арганізацыя ТБМ, абласныя і раённыя структуры ТБМ |
| 10. | **Круглы стол** па пытаннях беларускамоўнай адукацыі. | Травень | Бабіч ю. Родзік А. |
| 11. | **Забеспячэнне дзейнасці інтэрнет-партала ТБМ.** | На працягу года | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры |
| 12. | **Выданне паштоўкі і кішэннага каляндарыка да юбілею Янкі Брыля.** | 1-ы квартал 2017 г. | Сакратарыят ТБМ |
| 13. | **Прыняць удзел у святкаванні 500-годдзя беларускага кнігадрукавання.** | 6 жніўня 2016 г. | Сакратарыят ТБМ |
| 14. | **Прыняць удзел у Дні беларускага пісьменства.** | Пачатак верасня | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры |
| 15. | **Адзначыць Еўрапейскі дзень моў.** | 26 верасня | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры |
| 16. | **Адзначыць Дзень беларускай школы.** | 13 лістапада | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры |
| 17. | **Адзначыць 100-годдзе 1-га Ўсебеларускага кангрэсу.** | 5 снежня | Сакратарыят ТБМ |
| 18. | **Адзначыць 800-годдзе першага ўжывання слова Albaruthenia да тэрыторы Беларусі.** | На працягу года | Сакратарыят ТБМ |
| 19. | **Адзначыць наступныя даты:** | | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| | 50 гадоў з часу заснавання выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя імя Пятруся Броўкі" (Менск, 1967 г.). | 1 студзеня | |
| | 80 гадоў з дня нараджэння **Васіля Гігевіча**, беларускага пісьменніка. | 3 студзеня | |
| | 125 гадоў з дня нараджэння **Адама Станкевіча**, беларускага грамадска-палітычнага дзеяча, выдаўца, гісторыка, публіцыста, літаратуразнаўца, каталіцкага святара. | 6 студзеня | |
| | 80 гадоў з дня нараджэння **Міхася Верацілы**, калекцыянера, краязнаўца, мастака, паэта. | 11 студзеня | |
| | 125 гадоў з дня нараджэння **Браніслава Тарашкевіча** (1892-1938), грамадскага палітычнага дзеяча, літаратара, акадэміка. | 20 студзеня | |
| | 125 гадоў з дня нараджэння **Рыгора Шырмы** (1892 - 1978), беларускага грамадскага і культурнага дзеяча, хормайстра, народнага артыста БССР і СССР, Героя Сацыялістычнай працы. | 20 студзеня | |
| | 130 гадоў з дня нараджэння **Фабіяна Шантыра** (1887-1920), пісьменніка, публіцыста, грамадскага дзеяча. | 4 лютага | |
| | 75 гадоў з дня нараджэння **Міколы Жылінскага**, беларускага журналіста, пісьменніка, гісторыка, кандыдата гістарычных навук. | 5 лютага | |

| № | Назва мерапрыемства | Тэрмін выканання | Адказны за правядзенне |
|---|---|---|---|
| | 210 гадоў з дня нараджэння **Напалеона Орды**, беларускага мастака, кампазітара. | 11 лютага | |
| | 80 гадоў з пачатку выдання газеты "ЛіМ" - органа Саюза беларускіх пісьменнікаў у 1932- 2002 гадах. | 26 лютага | |
| | 80 гадоў з дня нараджэння **Георгія Галенчанкі** (1937, г. Петразаводск), гісторыка-медыявіста, доктара гістарычных навук. | 28 лютага | |
| | 950 гадоў ад першага ўпамінання пра Менск у "Аповесці мінулых гадоў". | 3 сакавіка | |
| | 80 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Крукоўскага**, мастака - плакатыста. | 6 сакавіка | |
| | 75 гадоў з дня нараджэння **Міхася Ткачова** (1942-1992), беларускага грамадска-палітычнага дзеяча, гісторыка, археолага, доктара гістарычных навук, прафесара. | 10 сакавіка | |
| | 130 гадоў з дня нараджэння **Алеся Гаруна** (1887-1920), пісьменніка і дзеяча нацыянальна-вызвольнага руху. | 11 сакавіка | |
| | **Дзень Волі.**<br>**100 гадоў Нацыянальнаму беларускаму сцягу.** | 25 сакавіка<br>сакавік-красавік | |
| | 30 гадоў з часу стварэння Беларускага фонду культуры (БФК) (Менск, 1987 г.). | красавік | |
| | 400 гадоў з дня заснавання ў Слуцку кальвінісцкай школы, пазней - кальвінісцкай гімназіі. | 20 траўня | |
| | 80 гадоў з дня нараджэння **Міхаіла Біча** (1937-1999), доктара гістарычных навук. | 27 траўня | |
| | 90 гадоў з дня нараджэння **Вітаўта Кіпеля**, гісторыка, грамадскага дзеяча, старшыні Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ерку. | 30 траўня | |
| | 150 гадоў з дня нараджэння **Мітрафана Доўнар-Запольскага**, беларускага гісторыка, доктара гістарычных навук, прафесара. | 2 чэрвеня | |
| | 135 гадоў з дня нараджэння **Янкі Купалы** (1882-1942), Народнага паэта Беларусі. | 7 ліпеня | |
| | 40 гадоў з часу заснавання Музея старажытна-беларускай культуры ІМЭФ НАНБ (Менск, 1977 г., адкрыты 15 траўня 1979 г.). | 7 ліпеня | |
| | 215 гадоў з дня нараджэння **Ігната Дамейкі** (1802-1889), геолага, мінеролага, даследчыка Чылі, аўтара мемуараў. | 31 ліпеня | |
| | 100 гадоў з дня нараджэння **Янкі Брыля**, Народнага пісьменніка Беларусі. | 4 жніўня | |
| | 70 гадоў з дня нараджэння **Віталя Скалабана**, беларускага гісторыка, культуролага, архівіста, кандыдата гістарычных навук. Памёр у 2011 г. | 5 жніўня | |
| | 100 гадоў з дня нараджэння **Пімена Панчанкі** (1917-1995), Народнага паэта Беларусі. | 23 жніўня | |
| | 90 гадоў з дня нараджэння **Алеся Адамовіча.** | 3 верасня | |
| | 100 гадоў з дня нараджэння **Язэпа Сажыча**, беларускага грамадска-палітычнага і культурнага дзеяча на эміграцыі. Памёр у 2007 г. | 5 верасня | |
| | 220 гадоў з дня народзінаў **Івана Грыгаровіча** (1792-1862), археографа, гісторыка, краязнаўца, пісьменніка. | 6 верасня | |
| | 80 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Содаля**, пісьменніка, літаратуразнаўца, краязнаўца. | 13 верасня | |
| | 125 гадоў з дня нараджэння **Зоські Верас** (1892-1991), беларускай грамадска-культурнай дзяячкі, пісьменніцы. | 30 верасня | |
| | 80 гадоў з дня нараджэння **Яўгена Куліка** (1937-2002 ), графіка. | 31 каст-ніка | |
| | 20 гадоў таму назад у Лідзе выйшаў 1-шы нумар аднойленай газеты "Наша слова". | 1 лістапада | |
| | 135 гадоў з дня нараджэння **Якуба Коласа** (1882-1956), Народнага пісьменніка Беларусі, вучонага, акадэміка НАН Беларусі. | 3 лістапада | |
| | 130 гадоў з дня нараджэння **Цішкі Гартнага** (1887-1937), пісьменніка, акадэміка НАН Беларусі, палітычнага і дзяржаўнага дзеяча БССР. | 4 лістапада | |
| | 30 гадоў з часу заснавання Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры (Менск, 1987, адкрыты ў лістападзе 1991 г.) | 6 лістапада | |
| | 180 гадоў з дня нараджэння **Міхала Эльвіра Андрыёлі** (1837-1893), мастака, удзельніка паўстання 1863 года. | 26 лістапада | |
| | 85 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Талерчыка**, беларускага краязнаўца. Памёр у 2016 г. | 26 снежня | |
| 20. | **Адзначыць юбілейныя даты сяброў ТБМ:** | | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| | 60 гадоў з дня нараджэння **Алеся Астроўскага**, доктара медыцынскіх наву, прафесара. | 19 сакавіка | |
| | 80 гадоў з дня нараджэння **Івана Будніка**, беларускага педагога, краязнаўца. | 2 траўня | |
| | 70 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Мілінкевіча,** беларускага палітыка, кандыдата фізіка-матэматычных навук. | 25 ліпеня | |
| | 85 гадоў з дня нараджэння **Адама Мальдзіса**, доктара філалагічных навук, літаратуразнаўца, празаіка. | 7 жніўня | |
| | 80 гадоў з дня нараджэння **Аляксея Каўкі**, маскоўскага гісторыка, літаратуразнаўца. | 20 верасня | |
| | 80 гадоў з дня нараджэння **Данута Бічэль**, беларускай паэтэсы. | 3 снежня | |

# Тэксты для X Агульнанацыянальнай дыктоўкі

*Францішак Скарына*

## Прадмова да кнігі "Эклізіяст" *(206 слоў)*

Як вядома, усе людзі на свеце скіроўваюць свой розум і сэрца на пэўныя рэчы. Адны - на царствы і панаванне. Другія - на багацці і скарбы. Трэція - на мудрасць і навуку. Чацвёртыя - на цялесную моц і прыгажосць. Пятыя - на набыццё маёмасці і шматлікіх статкаў. Шостыя - на шчодрыя яствы і неўтаймаваныя пралюбадзействы. Іншыя - на дзяцей, на сяброўства, на службу, на вайсковыя доблесці і многія іншыя рэчы. Такім чынам, кожны чалавек мае штосьці такое, што больш за ўсё астатняе яму даспадобы. Асэнсаваўшы ўсё, прамудры Саламон, як у люстэрку, паказаў у сваёй кнізе кароткімі выслоўямі гэтыя рэчы. Вось які галоўны вывад зрабіў ён у канцы: "Марнасць над марнасцю, усё марнае, нават - прыцясненне духоўнае!"

У гэтай кнізе мы зможам падрабязна пазнаёміцца з тым, што гаворыць цар Саламон аб людскіх мыслях і схільнасцях. Так, у адным месцы ён, напрыклад, піша: "Няма нічога лепшага, чым ежа, пітво і дабро для душы сваёй", а ў іншым - наадварот: "Лепей пайсці ў дом плачу, чым у дом піравання". І яшчэ піша: "Няма вялікай розніцы паміж мудрым і невукам, бо ўсё роўна канец у абодвух аднолькавы". А ў іншым месцы гаворыць супрацьлеглае: "Як свет пераўзыходзіць ноч, так мудры - невука. Мудры мае духоўныя вочы - свой розум, а неразумны - у цьме блукае".

*Янка Брыль*

## Усмешка *(204 словы)*

Толькі што адшумела навальніца, і па вуліцы вёскі бягуць вясёлыя мутныя раўчукі.

Я стаю каля варот бацькоўскага двара, і мне вельмі хочацца зняць свае модныя туфлі, прайсціся па быстрай дажджавой вадзе, памясіць нагамі цёплую, пухкую гразь...

Маркуючы па тым, што я яшчэ не зрабіў гэтага, а толькі раздумваю - я ўжо даўно не малы. Ды я не адчуваю чамусьці ні цяжару гадоў, ні адказнасці за свае паводзіны: я проста рад, можа, нават не менш, чым рады бываюць у такі час малыя.

На захадзе з-за хмар выглянула сонца. З узгорка ўніз па вуліцы ідзе белы, зусім сухі і чысты бычок, а на бычку сядзіць гадоў пяці-шасці дзяўчынка, што таксама не была пад дажджом.

Бычок ідзе паволі, нават салідна, упарта і горда несучы наперад свой шырокі пародзісты лоб з тупымі шэрымі рожкамі.

Дзяўчынка сядзіць на бычку не так, як хлопцы, а бокам, спіной да мяне, нібы знарок схаваўшы свой твар, напэўна, шчаслівы і смешна сур'ёзны, свае, вядома ж, загарэлыя ножкі.

Сонца прасвечвае праз мокрае, бліскучае лісце бяроз, і на мелкай гразі, нядаўна затупанай слядамі каровіных капытоў, на гаманлівай вадзе і на шэрых штакетах за раўчуком ляжыць рухавая сетка ценю. Калі бычок са сваёй амазонкай уваходзіць у гэты цень, па іх гуляюць сонечныя зайчыкі.

*Пімен Панчанка*

## Бульба *(199 слоў)*

Так ісці на захад, гэтак перці
За эпоху можна толькі раз.
Есці захацелася да смерці,
Ну, а повар з кухняю заграз.
Падцягнулі рамяні з тугою,
Леглі адпачыць пад сіняй хвояй,
На сухой абочыне шашы.
Рай - для ног, цыгарка - для душы...
Спрэчка пачалася нечакана:
Што смачней з усіх вядомых страў?
"Хаш і лобі! - першым крыкнуў Вано,-
Я б сем місак зараз уваб раў".
"Плоў, - сказаў Ахмет. - Калісьці дома..."
І пацмокаў смачна языком.
А Гурген ускочыў: "Вы знаёмы
З ерэванскім сочным шашлыком?"
Я тут узгарэўся не па жарты:
"Вашых страў я ганіць не хачу:
І яны што-кольвек, пэўна, варты,
Як хвалілі знаўцы іх - я чуў.
Сорам пра найлепшае не ведаць, -
Рынуўся я ў наступ па байцоў, -
Калі смачна хочаце паснедаць,
Закажыце бульбы з селядцом.
Печаная бульба - гэта казка,
Паскрабеш нажом - і калі ласка.
Жоўтая скарынка, як пірог,
Будзеш уплятаць яе за трох.
Трапіш да кабецiны рахманай -
Паспытаеш, друг мой дарагі,
Дранікі са свежаю смятанай,
Бабку, клёцкі, нават пірагі.
З нашай бульбы тысячу, не меней,
Смажаць і гатуюць розных страў..."
Я ўсхапіўся з месца і з натхненнем
Песню ім пра бульбу праспяваў.
Бачу: праняла мая прамова,
Зараз крыкнуць: "Дзе яна? Гарні!"
... Добра, што пад'ехаў ротны повар
На рудым запараным кані.

*Пімен Панчанка*

## Родная мова *(155 слоў)*

Кажуць, мова мая аджывае
Век свой ціхі: ёй знікнуць пара.
Для мяне яна вечна жывая,
Як раса, як сляза, як зара.
Гэта ластавак шчабятанне,
Звон світальны палескіх крыніц,
Сінь чабору, і барвы зарніц,
І буслінае клекатанне.
Калі ж хто загадае: "Не трэба!" -
Адрачэцца ад мовы народ, -
Папрашу я і сонца, і неба:
Мне не трэба ні славы, ні хлеба,
Асудзіце на безліч нягод.
Толькі месяцаў назвы пакіньце,
Назвы родныя роднай зямлі,
Пра якія з маленства ў блакіце
Бор шуміць і пяюць жураўлі:
Студзень - з казкамі снежных аблокаў,
Люты - шчодры на сіні мароз,
Сакавік - з сакатаннем і сокам
Непаўторных вясновых бяроз,
Красавік - час маланак і лiўняў,
Травень - з першым каханнем, сяўбой,
Чэрвень - з ягаднаю зарой,
Ліпень - з мёдам,
З пшаніцаю - жнівень,
Спелы яблычны верасень,
Светлы кастрычнік
У празрыстасці чыстай, крынічнай,
Лістапад - залаты лістапад,
Снежань - першы густы снегапад...
Ці плачу я, ці пяю,
Ці размаўляю з матуляю -
Песню сваю, мову сваю
Я да грудзей прытуляю.

*(Тэксты падрыхтавалі супрацоўнікі Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы.)*

*Прапанаваныя тэксты маюць не абавязковы, а дапаможны статус. Кожны знаўца ці энтузіяст вольны ўзяць для дыктоўкі свой тэкст, а для люду паспалітага паўторым словы з помніка Францішку Скарыну ў Лідзе: "Бярыце і чытайце!".*

# СПРАВАЗДАЧА

## Шаркоўшчынскай суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны за 2016 год

1. Сёмага студзеня 2016 года праведзены Калядкі. Вядовец Калядак сябар ТБМ Язэп Квач.

2. Абмеркаванне твораў Нобелеўскай лаўрэаткі Святланы Алексіевіч.

Гэтыя імпрэзы засняты на відэа і размешчаны на сайце "Весткі-інфо". Па водгуках нашых землякоў, якія цяпер жывуць за мяжой, яны бачылі гэты матэрыял на сайце і пахвалілі.

Тыдзень беларускай мовы і літаратуры праведзены на базе Вялікасельскай школы з 15 па 20 лютага. Яго змест: 1) Інфармацыйная гадзіна; 2) Конкурсы; 3) Хвіліны беларускага чытання; 4) Інтэрактыўная гульня "Прайдзісвет"; 5) Сустрэча: "Знаёмцеся! Нобелеўскі лаўрэат Святлана Алексіевіч"; 6) Адкрыццё выстаўкі мастакоў- землякоў:

- Аляксандра Шыёнка (карціна "Сябры" - партрэты В. Быкава і Р. Барадуліна).

- Яўгена Ліпскага "Антаніна" - партрэт сястры В. Быкава ў Бычках Ушацкага раёна.

- Віктара Крука - "Вяскоўцы" і інш.

Арганізатары такога багатага мерапрыемства: дырэктар школы Матуль Юры Часлававіч, яго намеснік Рымдзёнак Ірына Рычардаўна, настаўнік беларускай мовы Рымдзёнак Васіль Васільевіч. Правядзенню мерапрыемства аказала падтрымку і прыняла актыўны ўдзел Райчонак Ада Эльеўна, прадставіўшы матэрыялы са свайго багатага прыватнага музея. Справаздача і здымкі з гэтага мерапрыемства апублікаваныя ў раённай газеце "Кліч Радзімы" № 18 ад 2 сакавіка.

4. Да міжнароднага Дня роднай мовы ў Зоркаўскай базавай школе праведзена літаратурная гасцёўня "Да людзей з любоўю ідучы". У школу запрасілі сяброў літаратурнага аб'яднання "Світанак". Быў настаўнік, паэт Морхат Віктар Стэфанавіч прэзентаваў зборнік вершаў "Каб памяць жыла ў сэрцах пакаленняў". У зборніку вершы 39 аўтараў з Віцебскай вобласці, у тым ліку, 4 з нашага раёна. Гэта: Грабянёк М.М., Мілянцей Ул.Я., Морхат В.С., Сікора Г.І.

Прэзентаваўся зборнік твораў беларускіх пісьменнікаў "Дзісненшчына літаратурная". Вучні школы падрыхтавалі песні на роднай мове. Свае вершы чыталі "світанкаўцы" Міледзі Кукуць, Віктар Лагун, Ірына Тарбецкая. Рэпартаж з Дня роднай мовы змешчаны ў газеце "Кліч Радзімы" ад 16 сакавіка 2016 г.

5. У раённым доме ramёстваў 3 траўня 2016 года адбылася прэзентацыя творчасці мастака Фёдара Ястраба. Перад сабранымі першым выступіў наш мастак Крук В.Ф. з грунтоўнай характарыстыкай творчасці Ястраба, яго карцін, выстаўленых у зале. Выступ Крука В.Ф. дапоўнілі жонка Ястраба і яго сын. У абмеркаванні прынялі ўдзел прысутныя гледачы. Усе на беларускай мове. Нават прысутны тут намеснік старшыні райвыканкама па ідэалогіі Васілеўскі Юры Анатольевіч таксама выступіў па-беларуску.

6. 15 ліпеня ў Германавічах на базе музея Ады Эльеўны Райчонак праведзена краязнаўчая канферэнцыя з удзелам краязнаўцаў Шаркоўшчынскага, Браслаўскага, Мёрскага і Глыбоцкага раёнаў і нашага земляка з Даўгаўпілса. З нашага раёна дакладчыкамі былі сябры суполкі ТБМ Ардынская Л.І., Ляскоўскі Ул. К., Кожан К.А.

7. Ужо традыцыйным стала правядзенне ў жніўні ў Германавічах БУЛЬБЯНОГА ФЭСТУ. На гэты раз кола ўдзельнікаў яшчэ больш расшырылася. Прыбавілася бардаў і спевакоў з розных раёнаў. Гэта было сапраўднае свята беларускай мовы і беларускай песні.

8. Каўшэлеўскі дом фальклору праводзіў "Жаніцьбу Цярэшкі". Запрашалі літаратурна-музычнае аб'яднанне "Світанак", Радзюкоўскі дом культуры з вучнямі Радзюкоўскай школы.

9. У кастрычніку 2016 года арганізавана паездка - экскурсія па памятных мясцінах мастака Язэпа Драздовіча з запрашэннем мастакоў з Менска. Наведалі былы засценак Пунькі, дзе нарадзіўся Язэп Драздовіч. Ля магілы мастака, у прысутнасці яго родзічаў і былых суседзяў правялі мітынг-рэквіем.

10. 13 лістапада ў Радзюкоўскім доме культуры праведзены вечар паэзіі з нагоды выпуску з друку зборніка вершаў мясцовых паэтаў "Яблыневы сад". Галоўным натхняльнікам вечара была мясцовая паэтка Ардынская Людміла Іосіфаўна. Прысутнічалі ўдзельнікі "Світанка". Выступілі калектывы мастацкай самадзейнасці вучняў Радзюкоўскай базавай школы і калектыў "Купалінка"" Каўшэлеўскага дома культуры.

11. 23 лістапада адкрылася аўтарская выстава прац мясцовага мастака Крука Віктара Фёдаравіча. На адкрыўцці сабралася многа людзей, бо Віктара Фёдаравіча ведаюць у Шаркоўшчыне не толькі, як мастака, але і як добрага настаўніка школы мастацтваў. Ад выступоўцаў гучалі пахвалы ў яго адрас, у тым ліку і ад чыноўнікаў па ідэалогіі.

12. 28 лістапада ў чарговы раз у раёне адзначалася трагічная гадавіна спаленых фашыстамі вёсак Ёдскага сельсавета. Райвыканкам у чарговы раз збіраў ацалелых і выжыўшых "дзяцей вайны" той зоны. Райчонак Ада Эльеўна, як былы вязень фашысцкага лагера, не магла застацца ў баку. Яна падрыхтавала фільм "Дзеці вайны", дзе запісаны ўспаміны выжыўшых ў той жудасны час. Збор выжыўшых адбыўся ў Ёдскім доме культуры. Выступала Ада Эльеўна. Дэманстраваўся фільм.

*Справаздачу падрыхтаваў* ***Уладзіслаў Канстанцінавіч Ляскоўскі.***

# Усё пачынаецца з кахання

Літаратурны аддзел Лідскага гістарычна-мастацкага музея абвясціў конкурс "Усё пачынаецца з кахання". Вынікі яго будуць падведзены напярэдадні 14 лютага - да Дня Святога Валянціна.

У дадзеным конкурсе можа паўдзельнічаць любы з вас. Для гэтага патрабуецца:

У сацыяльныя групы Лідскага гістарычна-мастацкага музея даслаць ваш сумесны фотаздымак, пад якім неабходна змясціць цытату, ці кароткі верш на тэму кахання аднаго з класікаў беларускай літаратуры. Пасля з дасланых фотаздымкаў журы выбярэ найбольш крэатыўныя здымкі. З пяці лепшых будзе вызначаны самы-самы. Выбраны фотаздымак і стане выра шальным у конкурсе. Удзельнікі, між іншым, атрымаюць запрашальныя білеты на выставы гістарычна-мастацкага музея і наведванне Лідскага замка.

Які сюрпрыз чакае пераможную закаханую пару? Пакуль гэтае пытанне застаецца пад сакрэтам. Але зазначым, што вечар для іх будзе незабыўным.

*lixmuseum.by.*



# Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў лютым

Абраменка Эдуард Якаўлевіч
Амурак Вольга Іванаўна
Андруцэвіч Станіслаў Вячасл.
Ануфрыенка Валянціна
Арабей Вольга Анатольеўна
Аскерка Валянціна Валянцін.
Аўкштулевіч Тамара Яўген.
Аўсеенкава Кацярына Валер.
Ахрамчук Віктар Георгіевіч
Бабічаў Антон Вячаслававіч
Багдановіч Эвеліна Паўлаўна
Багдзевіч А.І.
Балбераў Яўген Сяргеевіч
Баравік Марыя Якаўлеўна
Бардош Іна Анатольеўна
Барысік Мікалай
Бекешка Вікторыя Сямёнаўна
Бельчына Алеся Рыгораўна
Блажэвіч Ірына Ўладзіміраўна
Богуш Мікалай
Бодрыкаў Яўген Аляксанд.
Болбас Вадзім Іванавіч
Болбат Вячаслаў Парфір'евіч
Бубен Уладзімір
Бублікава Лілея
Бубновіч Іна Іванаўна
Будзянок Аляксей Пятровіч
Бузо Алег Леанідавіч
Бязрукая Аксана Юр'еўна
Бяліста Марына
Бярэзіна Надзея Ўладзімір.
Вабішчэвіч Тацццяна Іванаўна
Валочка Святлана Анатол.
Васючэнка Пятро Васільевіч
Ваўрышук Наталля Юр'еўна
Вашанка Дзмітры Дзмітрыевіч
Вашкевіч Марына
Верхачуб Уладзімір Васільевіч
Войткун Галіна Вотэхаўна
Вышадкевіч Наталля Алегаўна
Вярцейка Алесь
Галякевіч Яўген Ціханавіч
Гаравы Леанід Антонавіч
Гарбацэвіч Валеры Аляксанд.
Гарнастай Алена
Гарэлава Ганна
Гарэцкі Іосіф Аляксандравіч
Гільвей Вацлаў
Голуб Аксана Ўладзіміраўна
Грык Рыгор Яраслававіч
Грынь Сяргей Іванавіч
Грышан Мікола Паўлавіч
Губарэвіч Настасся Ўладзім.
Губарэвіч Юры Іванавіч
Гуцалік Галіна
Давідовіч Аляксандр Анатол.
Дземідовіч Вольга Валер'еўна
Дзенісевіч Павел Алегавіч
Дзеружынскі Авяр'ян Авяр.
Дзмітручына Ганна Мікал.
Дзмітрыеў Віктар Аляксандр.
Дзюбайла Андрэй Мікалаевіч
Дзямідка Генадзь Руфінавіч
Добыш Генадзь Канстанцінавіч
Драгун Павел Якаўлевіч
Драздова Марыя Аркадзеўна
Дракa Альбіна
Дубіцкі Віктар Сымонавіч
Емяльянава Аляксандра Вікт.
Жаўнярові Ганна Дзмітр.
Жук Мікалай
Жукоўская Л. С.
Забаўская Святлана
Засім Тамара
Заяц Генадзь Мікалаевіч
Іваніцкі Павел Яўгенавіч
Ігаценка М.І.
Іжохіна Надзея Іванаўна
Іжохіна Тацццяна Мікалаеўна
Кадыка Міхась Аркадзевіч
Калядзінскі Лявон Уладзімір.
Калядка Тацццяна Рыгораўна
Камеснікові Вольга
Камінская Аліна Аляксандр.
Кананові Ірына
Канашэнка Рыгор
Канойка Ігар
Каноў Уладзіслаў Васільевіч
Карбанові Сяргей
Каржанеўская Марына Дзміт.
Карнеева Алена Віктараўна
Карпові Лявон Эдвардавіч
Карэтка Дар'я Віктараўна
Касаржэўскі Віктар Іванавіч
Касцючык Валянціна Міхайл.
Качура Яўген
Кірэеў Антось Мікалаевіч
Клімовіч Наталля
Клімуць Лада
Клімуць Станіслава
Клімчык Генадзь
Кляшчонак Алена
Ковель Уладзімір
Корзан Ала Вікенцеўна
Красілава Маргарыта Алякс.
Краснабаеў Артур Мікалаевіч
Красоўскі Сяргей Уладзімір.
Краўчанка Арцём Аляксандр.
Крук Алена
Крываногава Святлана
Крыванос Алеся
Крывапуст Дзмітры Валер.
Крыстэсіашвілі Сергій Мам.
Крысюк Людміла
Крэйніна Людміла Міхайлаўна
Кузьмініч Ігар Расціслававіч
Кузьмянкова Наталля Алег.
Купрацэвіч Адам Прохаравіч
Курыленка Юлія
Кур'ян Астап Андрэевіч
Кухаронак Аляксандр Дзміт.
Кучаравенка Паліна Ўладзім.
Кучынскі Віталь Паўлавіч
Лабада Анастасія
Лагодская Ірына
Ладыга Сяргей Паўлавіч
Лазарэвіч Аляксандр
Лашкоўская Рэгіна В.
Леванкова Алена Аляксееўна
Левон Вадзім Вайцеховіч
Ліс Тамара
Літаш Вольга
Літвінава Людміла Сямёнаўна
Лопух Тацццяна Ўладзіміраўна
Лукашонак Тамара
Лукашэвіч Тамара Георгіеўна
Лукашэвіч Яўген Фёдаравіч
Лыч Леанід Міхайлавіч
Лявончыкава Дз.
Лягуцкі Анатоль Пятровіч
Ляшчынскі Іван Купрыянавіч
Мазынскі Валер Яўгенавіч
Макарэвіч Аляксандр Васіл.
Макевіч Настасся
Макрыцкая Ніна Міхайлаўна
Малашчанка Алег Міхайлавіч
Маліноўская Тацццяна Рыгор.
Марачкін Ігар Аляксеевіч
Мартынаў Мікола Рыгоравіч
Маслюкова Алена Аляксандр.
Матавілава Кацярына Ігараўна
Матэлёнак Леанід Аляксандр.
Машнюк Тацццяна Аляксандр.
Мінько Жанна
Міранові Міхаіл Канстанцін.
Місуна Раман
Мішчанкова Юлія Анатол.
Мудроў Максім
Мурашка Ігар
Мянькоў Юры Ўладзіміравіч
Мяхедка Аляксей Уладзімір.
Мяцельскі Мікалай Міхайл.
Навоеў Максім Алегавіч
Навумовіч Іван Мікалаевіч
Надакунева Ірына
Наскоў Міхаіл Андрэевіч
Нікіценка Тацццяна Пятроўна
Нікіцін Віталь
Новікава Яна
Нялепа В.
Падашвялёў Дзмітры Алякс.
Памецька Ніна Казіміраўна
Панізоўцаў Сямён Сямёнавіч
Парашчанка Яўгенія Ўладзім.
Парфёнаў Аляксандр Іванавіч
Патоцкая Тамара Антонаўна
Паўкштэла Сюзана Алегаўна
Петрашкевіч Аляксандр Ан.
Петрашкевіч Часлава
Петрушкевіч Ала Мікалаеўна
Піўко Юры
Плітко Віктар Васільевіч
Працко Святлана Аляксандр.
Прыгожын Аркадзь Ілліч
Прымака (Кухарэнка) Наст.
Пташнік Ларыса Ўладзімір.
Пухоўская Тацццяна Фёдараўна
Пяткевіч Марына
Пяткевіч Уладзімір Сцяпан.
Пятровіч Аксана Іванаўна
Пятроўскі Аляксандр
Радзюк Аляксандр Рыгоравіч
Ражкоў Леанід Мікалаевіч
Разумаў Андрэй Томакавіч
Ракевіч Мікалай
Раманоўская Вольга Парфір.
Раманцэвіч Валянціна Карл.
Рачко Мікалай
Рудніцкая Яніна
Ружыцкі Павел Аляксандравіч
Русак Андрэй
Рымач Мікалай Мікалаевіч
Рымко Вольга
Рысявец Раіса Рыгораўна
Савасцеева Людміла
Савіцкая Тацццяна Яўгенаўна
Савіцкі Мікалай Іванавіч
Садоўская Яна Францаўна
Сакалова Алена Георгіеўна
Сакалоўскі Віктар Міхайлавіч
Саколка Анастасія Вацлаваўна
Салаўёў Зміцер Віктаравіч
Сарока Андрэй Іванавіч
Саўчук Ян Васільевіч
Сахута Яўген Міхайлавіч
Свістун Сяргей
Серада Алеся Сяргееўна
Сідарук Лілея Мікалаеўна
Сіманёнак Людміла Іванаўна
Сіплівеня Жана Сямёнаўна
Стадуб Іван Дзям'янавіч
Старавойтаў Сяргей Мікал.
Старжынскі Андрэй
Стома Анастасія
Страчук Аляксандр Сяргеевіч
Строганаў Вадзім Вячаслав.
Стэпановіч Язэп Міхайлавіч
Сугойдзь-Зубовіч Кацярына
Сухарэбская Кацярына Аляк.
Сухоцкі Іван Андрэевіч
Сучак Міхась
Сцепанішчава Вера Андрэеўна
Сцефановіч Галіна Іванаўна
Сцяпанава Зоя Анатольеўна
Сырыца Тацццяна Афраімаўна
Сямашка Сяргей Анатольевіч
Сяменас Людміла Францаўна
Сянкевіч Мікалай Іванавіч
Талстая Алена Ўладзіміраўна
Тарэлка Міхаіл Уладзіміравіч
Татаранка Аляксандр Мікал.
Тоўсцік Тацццяна Цімафееўна
Трубкін Аляксей Анатольевіч
Тулько Ірына Ўладзіславаўна
Тулько Кацярына Ўладзімір.
Туровіч Алесь
Тычына Міхаіл Аляксандравіч
Тэрэз Віктар
Урублеўская Наталля Вікенц.
Утохіна Наталля
Ушакоў Сяргей Аляксандравіч
Філімоненка Марына Віктар.
Філіповіч Алена Сяргееўна
Філюта Ніна Рыгораўна
Хадановіч Яўген
Хадневіч Васіль
Хацкевіч Анатоль Канстанцін.
Хмянчук Марыя Іванаўна
Ходар Аляксандр
Хоміч Марына Ўладзіміраўна
Цімафеева Ганна Сяргееўна
Цімохін Леанід Аляксандравіч
Цімохін Лявон Аляксандравіч
Ціткоўскі Ігар Адамавіч
Цішакіна Ірына Пятроўна
Цэдрык Ганна Васільеўна
Цярэнцеў Зміцер Ігаравіч
Чарнышова Зоя
Чарнякевіч Андрэй
Чарняўскі Сцяпан
Чыбісаў Мікола
Чылек Ніна Аляксандраўна
Шалкевіч Віктар Антонавіч
Шаўчук Аляксандр Мікал.
Шашута Алесь
Шпакаў Фелікс
Шундрык Георг
Шчарбакоў Ян Сяргеевіч
Шчасная Марыя
Шырвель Андрэй Раманавіч
Шыян Яўген Дзімітрыевіч
Язукевіч Ганна Чаславаўна
Яканюк Данат Лявонавіч
Янушэўскі Віктар Пятровіч
Ярмусік Эдмунд Станіслававіч
Яроменка Ўладзімір Уладзім.
Яшчэня Ірына
Яшын Дзмітры Іванавіч

## Бывай мільянер




***Запрашаем наведаць!***

Даведацца пра гісторыю грашовага абарачэння на Гарадзеншчыне з канца XVIII ст. да нашых дзён можна з 27 студзеня па 19 сакавіка ў Лідскім музеі.

Колькі зараблялі жыхары Гарадзеншчыны ў розныя гістарычныя эпохі і на што трацілі грошы - гэта і шмат іншага чакае наведвальнікаў на выставе "Бывай, мільянер!" з фондаў Гарадзенскага дзяржаўнага гістарычна-археалагічнага музея.

***Наш кар.***

# Памёр Аляксандр Ціхановіч

Аляксандар Ціхановіч памёр уначы 28 студзеня. Пра смерць народнага артыста Беларусі паведаміла ягоная дачка ў Instagram.

*"Сёння ноччу не стала майго Таты ... Мы дзякуем усім, хто на працягу яго дзіўнага жыццёвага шляху быў побач. Дзякуем усім, хто маліўся і падтрымліваў яго ў яго апошні і вельмі няпросты год. Я ведаю, што ён бы папрасіў падзякаваць усім вам за вашу любоў, якая была ўзаемнай. Чалавек-Любоў, мой самы блізкі, самы лепшы, самы любімы. Мой Тата. Памаліцеся за яго, каб яго дарога да Бога, якую ён шукаў і знайшоў, завяршылася радаснай сустрэчай. Тата, я люблю цябе, заўсёды. Царства табе Нябеснае, Няхай Божачка прыме цябе ў Сваіх самых светлых селішчах, дзе няма больш ні хваробы, ні смутку, але Жыццё і Любоў бясконцая"*, - напісала дачка спевака.

Аляксандру Ціхановічу было 64 гады. Вядома, што апошнім часам ён цяжка хварэў.

Ціхановіч нарадзіўся 13 ліпеня 1952 года ў Менску. Скончыў Беларускую кансерваторыю. З 1973 года быў удзельнікам папулярнага на той час вакальна-інструментальнага ансамбля "Верасы", дзе ён граў на бас-гітары і трубе, а таксама выконваў вакальныя партыі. З адной з удзельніц "Верасоў", Ядвігай Паплаўскай, ён пазней ажаніўся.



Пасля перамогі на конкурсе "Песня-88" Ціхановіч стварыў дуэт разам з Паплаўскай. Разам з жонкай Ціхановіч іграў у гурце, стварыў тэатр, а потым і прадусарскі цэнтр. Праз яго прайшлі Аляксандар Саладуха і "Ляпіс Трубяцкі".

Ціхановіч меў тытул Заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь і Народнага артыста Беларусі. Ён таксама зняўся ў сямі фільмах. У "Яблыку месяца" ён выконваў галоўную ролю.

Вечная памяць беларусу!

## Ахвяраванні на ТБМ




1. Руткоўская Антаніна - 20 р., г. Менск
2. Руткоўская Яўгенія - 20 р., г. Менск
3. Рабека Мікола - 15 р., г. Менск
4. Шкірманкоў Фелікс - 10 р., г. Слаўгарад
5. Сутунаў Глеб - 5 р., г. Менск
6. Кукавенка Іван - 15 р., г. Менск
7. Курава Тамара - 5 р., г. Менск
8. Вяргей Валянціна - 10 р., г. Менск
9. Зуёнак Васіль - 5 р., г. Менск
10. Багданкевіч С. - 5 р., г. Менск
11. Гарэцкі Р. - 15 р., г. Менск
12. Дубко Тамара - 10 р., г. Менск
13. Панамароў Сяргей - 20 р., г. Менск
14. Кухаронак Аляксандр - 10 р., м. Смілавічы
15. Баравік Марыя - 10 р., м. Падсвілле
16. Місевіч Мар'ян - 60 р., м. Падсвілле
17. Новікава Марыя - 10 р., в. Самахвалавічы, Менскі р-н
18. Каратчэня Іван - 10 р., г. Светлагорск
19. Анісім Алена - 100 р., г. Менск
20. Саітава Валянціна - 5 р., г. Менск
21. Котава Іна - 10 р., г. Менск
22. Прыстрэм Наталля - 20 р., г. Менск
23. Валенцюковіч Ірына - 5 р., г. Ліда
24. Бойса І. Б. - 15 р., г. Ліда
25. Савіч Валер - 50 р., г. Пінск
26. Ляўшун Дзяніс - 12 р., г. Менск
27. Пракаповіч Юра - 30 р., г. Менск
28. Ганчарова Р. І. - 20 р., г. Менск
29. Лявончык Раман - 20 р., г. Салігорск
30. Восіпава Аляксандра - 10 р., г. Гомель
31. Рагач П.І. - 10 р., г. Менск
32. Фарнэль Кастусь - 5 р., г. Наваполацк
33. Мельнікаў Юрась - 10 р., г. Наваполацк
34. Мельнікаў Алесь - 5 р., г. Наваполацк
35. Кунцэвіч Уладзя - 10 р., г. Наваполацк
36. Паўловіч Віктар - 10 р., г. Наваполацк
37. Шэвяка Аляксандр - 10 р., г. Наваполацк
38. Мудроў Алег - 10 р., г. Наваполацк
39. Гняткоў Валеры - 10 р., г. Наваполацк
40. Сідараў Сяргей - 10 р., г. Наваполацк
41. Гацкі Ўладзімір - 10 р., г. Наваполацк
42. Пісарэнка Алесь - 10 р., г. Наваполацк
43. Кулік Анатоль - 5 р., г. Наваполацк
44. Недзялкоў Яраслаў - 7 р., г. Наваполацк
45. Рымша Георгі - 5 р., г. Берасце

Дзейнасць ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" па наданні роднай мове рэальнага статусу дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас, вул. Румянцава, 13, г. Мінск, 220034, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ №3015741233011 у Аддзяленні № 539 ААТ "Белінвестбанка" код 739 (УНП 100129705) праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк.

**Паведамленне**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Аддзяленне № 539 ААТ "Белінвестбанк"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **3015741233011** Асабовы рахунак **739**

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні ТБМ | на дзейнасць | | | |
| | | | | |

Пеня
Разам

**Касір**

**Плацельшчык**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Аддзяленне № 539 ААТ "Белінвестбанк"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **3015741233011** Асабовы рахунак **739**

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні ТБМ | на дзейнасць | | | |
| | | | | |

Пеня
Разам

Квітанцыя

**Касір** **М.П.**

**Плацельшчык**

# Шаноўныя сябры і партнёры!

Просім сяброў арганізацыі і прыхільнікаў роднай мовы падтрымаць ТБМ сваімі ахвяраваннямі ў сувязі з павелічэннем са студзеня 2017 арэнднай платы за Мінскі офіс (зараз яна складае каля 2000 руб.) і неабходнасці фінансавай падтрымкі нашай газеты "Наша слова" (частка накладу якой распаўсюджваецца бясплатна).

Сродкі можна пералічыць праз сістэму "Расчет" (АРІП). Дадаем інструкцыю па аплаце. Спісы ахвярадаўцаў (з іх згоды) рэгулярна друкуюцца ў "Нашым слове", змяшчаюцца на партале ТБМ.

Змяшчаем інструкцыю па аплаце ўнёскаў і ахвяраванняў праз сістэму разліку "Расчет" (АРІП) і iPay.

**Спосабы аплаты**

***З дапамогай Сістэмы "Расчет" (АРІП):***

- электроннымі грашыма (iPay, Webmoney [WMB], Easypay, belqi);
- разліковай карткай (інтэрнэт-банк, мабільны-банк, банкамат, інфакіёск, каса банка і Белпошты*);
- наяўнымі (прылада cash-in, каса банка і Белпошты*).

* *Калі Вы робіце плацёж у касе банка і Белпошты, калі ласка, паведаміце касіру пра неабходнасць правядзення аплаты праз сістэмы "Расчет" (АРІП).*

**Для правядзення плацяжу неабходна:**

1. Абраць паслядоўна пункты (размяшчэнне паслуг у дрэве АРІП):

- Система"Расчет" (ЕРИП)
- Пожертвования, благотворительность
- ТБМ імя Францішка Скарыны

> Пожертвования

> Членские взносы

Размяшчэнне паслугі ў дрэве паслуг сістэмы "Расчет" (АРІП) у некаторых пунктах аплаты можа адрозніваццa ад апісанага вышэй. У сувязі з гэтым, у выпадку ўзнікнення праблем з пошукам паслугі, прапануем выканаць пошук па нумары паслугі АРІП:

4403011 - Пожертвования
4403021 - Членские взносы

***Сістэма iPay - аплата з балансу мабільнага тэлефона**:***

Зрабіць плацёж Вы зможаце з персанальнага кабінета сайта iPay.by.

Для ўваходу ў персанальны кабінет выкарыстоўвайце свой нумар тэлефона і сеансавы пароль, для атрымання якога дастаткова даслаць любое sms-паведамленне на нумар 5533 (кошт sms вызначаецца тарыфным планам абанента). Пасля паспяховага ўваходу ў персанальны кабінет Вы можаце ажыццяўляць плацяжы, абіраючы паслугі для аплаты. Акрамя таго, Вы можаце даведацца баланс Вашага рахунку мабільнага тэлефона, паглядзець гісторыю плацяжоў, пры неабходнасці раздрукаваць чэк.

***Спасылка на аплату паслугі "Пожертвования" праз сістэму iPay для абанентаў:***

**для абанентаў МТС:** https://mts.ipay.by:4443/pls/iPay/!iSOU.Login?srv_no=4413011&opt=1

**для абанентаў life:** https://gate.besmart.by/ipaylife/!iSOU.Login?srv_no=4413011&opt=1

***Спасылка на аплату паслугі "Членские взносы" праз сістэму iPay для абанентаў:***

**для абанентаў МТС**: https://mts.ipay.by:4443/pls/iPay/!iSOU.Login?srv_no=4413021&opt=1

**для абанентаў life:** https://gate.besmart.by/ipaylife/!iSOU.Login?srv_no=4413021&opt=1

Камісія сістэмы iPay складзе для абанентаў МТС 3%, life: ) 3,5%.

***Выключэнні складаюць нумары тэлефонаў, падключаныя на карпаратыўны тарыф, тарыфны план "Свободный life: )" і абаненты, якія выкарыстоўваюць аплату паслуг сотавай сувязі па факце. Для ажыццяўлення аперацый у Сістэме iPay даступная не ўся сума балансу ... рахунку: пасля спісання выніковай сумы аперацыі на вашым рахунку павінна застацца не менш за 10 капеек для абанентаў МТС і не менш за 50 капеек для абанентаў life: )*

І.В. Карпенку,
Міністру адукацыі
Рэспублікі Беларусь,
вул. Савецкая, 9
220010, г. Мінск

Паважаны Ігар Васільевіч!

У адпаведнасці з арт. 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь у нашай краіне дзяржаўнымі мовамі з'яўляюцца беларуская і руская мовы. З гэтага вынікае, што яны маюць роўны статус. Аднак у адукацыйнай сферы вельмі часта адбываецца парушэнне моўных правоў грамадзян праз адсутнасць паўнавартаснай адукацыі і адпаведных дакументаў на беларускай мове.

У сувязі з гэтым, а таксама з тым, што зараз рыхтуецца да прыняцця новая версія Кодэкса аб адукацыі, накіроўваем свае подпісы з прапановай падрыхтаваць тэкст гэтага заканадаўчага акта згодна Канстытуцыі Беларусі на дзяржаўнай беларускай мове, мове тытульнай нацыі. Гэта будзе цалкам адпавядаць выказванню Кіраўніка нашай краіны: "Мы - нацыя, а ў кожнай нацыі ёсць свае прыкметы. І галоўнае акрамя тэрытарыяльнай цэласнасці і суверэннасці - гэта мова. Чаму мы павінны адмовіцца ад беларускай мовы?"

| № п/п | Прозвішча, імя, імя па бацьку | Адрас | Дата | Подпіс |
|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | |
| 2 | | | | |
| 3 | | | | |
| 4 | | | | |
| 5 | | | | |
| 6 | | | | |
| 7 | | | | |
| 8 | | | | |
| 9 | | | | |
| 10 | | | | |



№ 5 (1312) 1 ЛЮТАГА 2017 г. Наша Слова

*Алег Трусаў*

# Гісторыя сярэднявечнай Еўропы (V - XV стагоддзі)

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Дарэчы, у Візантыі ўлада не перадавалася ў спадчыну, а новага імператара выбіралі сенат, кіраўнікі войска з удзелам простага народа. Часам дзімы выступалі і супраць улады і нават падымалі паўстанні. Самае вялікае паўстанне адбылося ў Канстанцінопалі ў 532 г. і атрымала назву "Ніка" ("Перамагай!"). Паўстанцы разграмілі ўладныя будынкі, разрабавалі і падпалілі горад. Аднак Юстыніян з дапамогай жонкі здолеў жорстка задушыць паўстанне вайсковай сілай. Загінула каля 35 тысяч яго ўдзельнікаў. Трэба адзначыць, што ў ранняй Візантыі даволі доўга існавала нявольніцтва, асабліва ў гарадах. Шмат нявольнікаў было ў прыватных і дзяржаўных майстэрнях, а таксама ў гаспадарках землеўласнікаў.

Візантыйскія гарады мелі тратуары (ходнікі), начное асвятленне, шмат прыгожых мураваных храмаў і палацаў, моцныя гарадскія ўмацаванні (мураваныя вежы і сцены). Багатыя людзі жылі ў вялікіх палацах, а бедныя - у розных халупках. У палацавых пакоях стаяла шыкоўная мэбля, аздобленая рознакаляровай эмаллю, роспісамі, пазалотай і каштоўнымі камянямі. У арнаментах шырока выкарыстоўваліся хрысціянскія матывы: манаграма Хрыста, выявы рыб, галубоў, гронак вінаграду, лаўровых і пальмавых лістоў. На адзенне візантыйцаў аказала моцны ўплыў антычная традыцыя: верхняе адзенне - тога, ніжняе - туніка. Хатні посуд быў металічны (у тым ліку і сярэбраны), шкляны і керамічны. Па-ранейшаму выраблялі- ся амфары, у якіх перавозілі віно і алей.

Вясковае грамадства складалася з сялян. Шмат хто з іх меў зямлю ў якасці прыватнай уласнасці. Уласнікі маёмасці праводзілі сходы, дзе прымалі розныя рашэнні, у тым ліку выбіралі асоб для кіравання вёскай. Таксама існавалі вялікія *латыфундыі*, дзе працавалі залежныя ад уласніка людзі, спачатку нявольнікі і калоны - потым беззямельныя сяляне. Існаваў і вялікі дзяржаўны зямельны фонд, які належаў імператару. Гэтыя землі або здаваліся ў арэнду, або пуставалі. Існавалі зямельныя ўладанні царквы і манастыроў.

### 3. Роля хрысціянства ў візантыйскім грамадстве

Нягледзячы на тое што з IV ст. хрысціянства ў Візантыі стала дзяржаўнай рэлігіяй, сярод мясцовага насельніцтва, асабліва сялянства, існавалі старыя язычніцкія традыцыі. Таму хрысціяне не раз знішчалі язычніцкія помнікі. Так, у канцы IV ст. у егіпецкай Александрыі разбурылі цэнтр язычніцкага культу "Серапіум", а таксама спалілі знакамітую бібліятэку. Пасля Нікейскага сабору 325 г. хрысціяне пачалі будаваць свае храмы і святкаваць свае рэлігійныя святы - Божае Нараджэнне і Хрышчэнне, Нараджэнне Багародзіцы, Тройцу, дні святых і інш. Узніклі і царкоўныя таінствы: хрышчэнне, пакаянне, прычашчэнне і вянчанне. Хрысціянскія вернікі падзяляліся на *клір* (святароў) і простых вернікаў - *міран*. У IV ст. з'явілася манаства. Аднак існавала шмат розных сектаў і плыняў, якія варожа ставіліся да іншых. Ужо ў 301 г. выдзелілася самастойная *нацыянальная армянская царква*, якая існуе і цяпер.

У Візантыі артадаксальнае хрысціянства доўга змагалася з арыянамі і монафізітамі, якія прызнавалі толькі адну - боскую - прыроду Хрыста. У 529 г. Юстыніян зачыніў Афінскую філасофскую школу. У той жа час, у V-VI стст. складаецца новая *хрысціянская візантыйская філасофія*, якая змяніла язычніцкі неапланта- нізм. Яскравымі прадстаўнікамі новай філасофіі сталі *Максім Спаведнік* і *Іаан Дамаскін* (каля 675 - каля 749). Апошні нарадзіўся ў Дамаску, дзе і стаў манахам. Ён актыўна выступаў за шанаванне абразоў і напісаў грунтоўную працу *"Крыніца ведаў"*.

У Візантыі існавала і хрысціянская сістэма адукацыі. Так, у манастырскіх школах навучаліся маладыя манахі, а ў патрыяршай школе святароў вучылі тэалогіі і рыторыцы. З VI ст. мовай навучання замест лаціны стала грэцкая.

***Перыяд іконаборства.*** У VI ст. у Візантыі пашырыўся *рух іконаборцаў*, якія выступалі супраць шанавання абразоў (ікон) і лічылі гэта ідалапаклонствам. Імператар Леў III (717-741) падтрымаў гэты рух і ў 726 г. абвясціў іканаборства сваёй афіцыйнай палітыкай, а ў 730 г. шанаванне ікон афіцыйна забаранілі. Леў III канфіскаваў частку маёмасці царквы, а таксама ліквідаваў частку царкоўных прывілеяў. Атрыманыя сродкі ён накіраваў на падтрымку арміі. У 754 г. адбыўся *Іканаборскі сабор*, які падтрымаў палітыку імператара па гэтым пытанні. Аднак прыхільнікі абразоў не змірыліся, і ў 787 г. на *VII Сусветным саборы ў Нікеі* яны дамагліся шанавання абразоў. Канчаткова іконашанаванне было вернутае як дзяржаўная палітыка імператрыцай Феадорай у 843 г., але землі, сканфіскаваныя ў царквы, дзяржава так і не вярнула.

### 4. Візантыйскае мастацтва і літаратура

У адрозненне ад Заходняй Еўропы, дзе *манументальнае* дойлідства практычна спыніла сваё існаванне, у Візантыі яно актыўна працягвалася. У будаўніцтве, акрамя каменю, актыўна выкарыстоўвалася і абпаленая цэгла. Гэтая цэгла мела квадратную ці амаль квадратную форму і невялікую таўшчыню (4-5 см). Сцены храмаў распісвалі *фрэскамі* і аздаблялі *мазаікамі*. Падлога была з каменных пліт або з керамічных плітак, а купалы накрываліся свінцовымі, радзей меднымі лістамі, часам з пазалотай. Першыя храмы мелі вялікія памеры і ў плане нагадвалі рымскія базілікі. У VI ст. (532-537 гг.) архітэктарамі *Анфіміем з Тралаў* і *Ісідорам з Мілета* быў збудаваны *Сафійскі Сабор* у Канстанцінопалі. Гэтыя дойліды мелі вялікую тэарэтычную падрыхтоўку, былі выкладчыкамі геаметрыі і матэматыкі, аўтарамі навуковых трактатаў. Гэта велізарная базіліка, дзе адначасова магла маліцца не адна тысяча вернікаў. Над галоўным чатырохвугольным будынкам быў зроблены велізарны купал. Сорак вокнаў зроблена па перыметры будынка каля асновы купала. Яны асвятляюць сярэдзіну вялізнай залы ў цэнтры будынка. Асноўны купал будынка абапіраецца на два ніжэйшыя падкупалы, як бы вырастаючы з іх. Увесь купал быў аздоблены мазаікамі. Гэта была выява вялікага крыжа пасярод зорнага неба. Інтэр'ер будынка аздоблены двума ярусамі мармуровых каланад. Некаторыя навукоўцы лічылі гэты храм самай галоўнай хрысціянскай святыняй у свеце.



*Сабор св. Сафіі ў Канстанцінопалі, 532 -537 гг.*

Да іншых шэдэўраў ранняга візантыйскага дойлідства адносяцца *храм Дванаццаці апосталаў* у Канстанцінопалі, *храм св. Дзімітрыя* ў Салоніках і *царква св. Віталія (Сан-Вітале)* ў італьянскай Равене. Храм у Равене і цяпер здзіўляе наведнікаў выключнасцю архітэктурных формаў, прыгажосцю і чысцінёй іх ліній. У гэтыя часы збудаваны абарончыя муры і вежы Канстанцінопаля, складаная сістэма акведукаў і цыстэрнаў для забеспячэння горада вадой. На беразе Мармуровага мора вырас Вялікі імператарскі палац - комплекс разнастайных архітэктурных будынкаў рознага прызначэння. Сцены і падлогі палацаў і храмаў былі аздоблены мазаікамі, зробленымі або з рознакаляровых каменьчыкаў, або з каляровых шкляных кубікаў (смальты). Захаваліся ўнікальныя мазаікі з выявамі Юстыніяна і Феадоры ў атачэнні прыдворных у храме Сан-Вітале ў Равене.

Візантыйскія дойліды ў V-VII стст. стварылі новыя ўзоры планіроўкі візантыйскіх гарадоў. У цэнтры горада знаходзілася вялікая плошча ад яе ў розныя кірункі разыходзіліся шырокія вуліцы.

З IV ст. у хрысціянстве пашырыўся культ абраза *(іконы)*, які напачатку панаваў у Візантыі. Таму ў выяўленчым мастацтве гэтай краіны пераважаў *жывапіс*. Абсалютная перавага надавалася выявам Бога, Багародзіцы, імператараў і асобных знакамітых людзей, а пазней і святых. На візантыйскіх абразах пераважалі вобразы Ісуса Хрыста і Божай Маці. Творы мастакоў былі плоскія і мелі залацістую афарбоўку. Святыя ўгоднікі, імператары мелі вакол галавы німб - залатое свячэнне.

Рэлігійны характар мела *візантыйская музыка*. Менавіта тут узнік такі музычна-паэтычны жанр, як *кандак*, які складаўся з некалькіх дзясяткаў строф-*трапароў*. Найбольш вядомымі складальнікамі кандакоў былі *Яфрэм Сірын* (IV ст.), *Раман Міласпеўны* (VI ст.). Аўтарамі разнастайных *гімнаў і канонаў*, у сваю чаргу, былі кампазітары і паэты VII-IX стст. *Андрэй Крыцкі, Феадор Студыт, Касія*. Вышэйзгаданы Іаан Дамаскін склаў са сваіх гімнаў знакаміты звод *"Актоіх"*.



*Храм св. Дзімітрыя ў Салоніках (IV-VII стст.; сучаснае фота).*

Паступова склалася візантыйская *хрысціянская літаратура*. Гэта агіяграфія, ці жыційная літаратура, - апісанне жыцця і дзейнасці святых і духоўныя гімны - у галіне паэзіі. У IV ст. з'явіліся "кодэксы" - рукапісныя кнігі, якія чыталі святары падчас літургіі ў храме, напісаныя на асобных пергаментных старонках. У V ст. пашырыліся "пурпуровыя кодэксы" - шыкоўныя кнігі, напісаныя на пергаменце пурпуровага колеру. Тэкст у іх часам быў напісаны срэбрам ці золатам.

Адзін з такіх кодэксаў - гэта *Венская Біблія*, якую, магчыма, напісалі ў Антыёхіі ў сярэдзіне VI ст. У XI ст. кнігі ў Візантыі пачалі пісаць на паперы.

### 5. Візантыйскае войска. Войны з арабамі і славянамі

У канцы VI ст. знешняя сітуацыя Візантыі значна пагоршылася. З поўначы нападалі протабалгары і славяне, на ўсходзе абвастрыліся адносіны з Персіяй, значную частку Італіі захапілі лангабарды. У пачатку VII ст. пачаліся ваенныя сутычкі з аварамі, а ў 608 г. паўстаў *карфагенскі экзархат* і да ўлады прыйшоў сын карфагенскага экзарха *Іраклій* (610-641). Менавіта ён правёў вайсковую рэформу ў краіне. Былі створаны вялікія вайсковыя акругі (*фемы*), дзе стаялі вайсковыя атрады. На чале фемаў былі *стратыгі*, якія мелі ўсю ўладу на тэрыторыі фема: вайсковую і грамадзянскую. Аснову войска складалі сяляне, якія за службу атрымалі зямельныя надзелы: іх яны маглі перадаваць у спадчыну і былі вызвалены ад усіх падаткаў. Для вайсковай падрыхтоўкі рэгулярна праводзіліся вайсковыя зборы і практыкаванні. Першыя фемы з'явіліся ў Малой Азіі і хутка распаўсюдзіліся па ўсёй дзяржаве.

У VII ст. грэцкі архітэктар з Сірыі Калінік прыдумаў новую зброю - *"грэцкі агонь"*. Яе вытворчасць была ў глыбокай таямніцы. Аснова зброі - запальная сумесь смалы і іншых гаручых рэчываў. Гэтая сумесь гарэла нават на вадзе. Яе выкідвалі на ворага з дапамогай спецыяльных медных труб і агнямётаў, якія былі зроблены ў выглядзе бронзавых ці жалезных пачвараў з адкрытымі пашчамі і стаялі на носе ваенных караблёў. Таксама гэтую зброю ўжывалі пры абароне і аблозе цвердзяў і гарадоў. Ваенныя дзеянні візантыйцаў апісаў у сваіх кнігах былы ваяр, гісторык VI ст. *Пракопій Кесарыйскі*.

У 638 г. войскі персаў былі разбітыя, але ў гэты час з'явіўся новы вораг - арабы. Спачатку яны захапілі Сірыю, потым Іерусалім і Антыёхію, Месапатамію і Арменію. У 641 г. без бою яны захапілі Егіпет, потым і Карфаген. У 681 г. на Балканах узнікла *Першае Балгарскае царства*. Тэрыторыя імперыі зменшылася на 2/3. Аднак у 674-678 гг. пры марской аблозе арабамі Канстанцінопаля з дапамогай "грэцкага агню" візантыйцы спалілі іх флот, а потым выгналі славян з Фракіі і Македоніі. У 717 г. яны ледзь адбіліся ад новага ўварвання арабаў, калі тыя акружалі сталіцу імперыі і з мора, і з сушы.

Аднак візантыйцы знайшлі сабе новага ваеннага саюзніка - хазараў - і спынілі арабскае войска.

### 6. Візантыя ў VIII-IX стст.

У 787 г. візантыйцы наладзілі добрыя адносіны з франкамі. У пачатку IX ст. балгарскае войска захапіла некалькі гарадоў і падышло да Канстанцінопаля. Аднак цар балгараў *Крум* раптоўна памёр, і візантыйцы здолелі падпісаць мір з балгарамі. У 870 г. балгарскі цар *Барыс* прыняў хрысціянства.

Адначасна зноў актывізаваліся арабы, якія ў 826-827 гг. захапілі Крыт, а потым пачалі заваёўваць Сіцылію. У выніку шматлікіх войнаў шмат якія гарады Візантыі занепалі і ператварыліся або ў аграрныя гандлёвыя пасяленні, або ў ваенныя цвердзі. Акрамя галоўнага горада-сталіцы буйнымі гарадамі засталіся Салонікі, Нікея, Эфес і Трапезунд. Усе сяляне былі абкладзены вялікімі падаткамі, а таксама працавалі на прымусовых працах: будаўніцтве цвердзяў, мастоў і дарог.

З сярэдзіны IX ст. адбываецца адраджэнне царкоўнай архітэктуры і мазаікі. Візантыйскія майстры распрацавалі новую *крыжова-купальную мадэль* хрысціянскага праваслаўнага храма і будавалі храмы па ўсёй імперыі. Храмы ўзніклі на Сіцыліі, а таксама ў Венецыі. Мазаікі адлюстроўвалі постаці імператараў і Хрыста ў асабліва велічнай форме. Былі выпадкі, калі Ісус Хрыстос быў выяўлены ў вобразе імператара, які, апрануты ў вайсковае адзенне, трымае ў руках крыж і кнігу, а нагамі топча льва і змяю.

У VIII-IX стст. Візантыя ў часы Ісаўрыйскай дынастыі, калі кіравалі вышэйзгаданы імператар Леў III (717-741) і *Канстанцін V* (741-775), здолела выстаяць у змаганні з рознымі ворагамі і зноў адрадзіць сваю магутнасць у X-XII стст.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# У палацыку - "Беларуская ялінка"



Вось ужо каторы год запар раённая рада Таварыства беларускай мовы арганізоўвае ранішнік "Беларуская ялінка". Па традыцыі свята праходзіць на стары Новы год у Пружанскім палацыку, а адметнасць мерапрыемства ў тым, што ўсе яго ўдзельнікі ўвесь вечар стараюцца размаўляць на беларускай мове. Нават самыя маленькія чытаюць Дзеду Марозу толькі беларускія вершы.

Сёлета правядзенне пружанскай "ялінкі" амаль не сарвалася: не было спонсараў хаця б на сціплыя падарункачкі для дзятвы. А, згадзіцеся, які Новы год без падарункаў! І, прызнацца шчыра, калі рукі зусім апусціліся, адгукнуліся добрыя людзі. Дзвесце рублёў на "ялінку" прэзентавала гаспадыня кавярні "Сан-Рэма" А.У. Варона. Да гэтай сумы вельмі дарэчы былі ўзносы больш як дзясятка пружанскіх прадпрымальнікаў. А калі куплялі салодкія падарункі, не засталася абыякавай і гаспадыня магазіна "Райскі яблычак" Н.А. Фралова: яна зрабіла адчувальную скідку на пакупку цукерак. Вельмі дарэчы аказаліся і яблыкі, якія прэзентавала доследная станцыя.





Свята атрымалася! У мінулую пятніцу ў "Пружанскім палацыку" беларуская ёлачка запаліла свае агеньчыкі. Тэмы ўсіх імпрэзаў былі самымі адвечнымі: Новы год, Каляды, Шчодры вечар. Сардэчна прывіталі дзяцей сталыя валанцёры з раённага таварыства Чырвонага Крыжа на чале з Л.А. Лелікоўскай: спецыяльна да свята яны вывучылі дзве прыгожыя беларускія песні. Цудоўна выступілі і маленькія гімназісты. Фальклорны гурт "Крынічка" пад кіраўніцтвам В.С. Лялёкінай упрыгожыў гэты шчодры вечар. Вясёлую беларускую кадрыль станцавалі юныя танцоры ўзорнага танцавальнага ансамбля "Крупелачкі" - кіраўнік В.І. Шапавал. Калядными песнямі парадавалі ўсіх фальклорны калектыў ДШМ імя Р. Шырмы з К.У. Гуга.

З асаблівым захапленнем удзельнікі "ялінкі" глядзелі пастаноўку пра нараджэнне Хрыста і слухалі песні ў выкананні маладых вернікаў з царквы евангельскіх хрысціян баптыстаў. Прасвітар царквы В.В. Ахрамук ужо каторы год прыходзіць на "Беларускую ялінку" не з пустымі рукамі. Дзякуючы яму ўсе дзеці ў дадатак да нашых мяшочкаў з цукеркамі атрымалі падарункі з цацкамі і рознымі прыналежнасцямі для школы і творчасці.

У ліку актыўных удзельнікаў свята былі і лепшыя чытачы беларускамоўных кніг з дзіцячай бібліятэкі.

Мы вельмі стараліся, каб і сёлета, як у мінулыя гады, "ялінка" запомнілася. Дзеці з Дзедам Марозам, Снягуркай і Мяцеліцай вадзілі карагоды, танцавалі пад баян, з якім прыйшоў на свята В.В. Шопік, расказвалі вершы, адгадвалі загадкі...

Добрыя дзве гадзіны ў зале гучала беларуская мова.

Ад усіх удзельнікаў свята шчыры дзякуй спонсарам. Дарэчы, уносячы свае ўклады, кожны з іх гаварыў нам: "Вы робіце выдатную справу!", Для добрай справы - не шкада!". Спадзяёмся, што ў будучым такіх сяброў у Таварыства беларускай мовы стане яшчэ больш.

***Ганна Хадаровіч.***

*Фота Юрыя Зялевіча.*

*Пружаны.*

# Вечарына да 80-годдзя Уладзіміра Васько

25 студзеня ў Лідскай раённай бібліятэцы адзначылі 80-годдзе Уладзіміра Васько - найвыдатнага паэта Лідчыны.



Нарадзіўся У. Васько 2 студзеня 1937 года ў вёсцы Ліпічанка Шчучынскага раёна. Скончыў Гарадзенскі педінстытут імя Янкі Купалы. Працаваў дырэктарам сярэдняй школы на Дзятлаўшчыне, у рэдакцыі Дзятлаўскай раённай газеты "Перамога", у рэдакцыі "Лідскай газеты" (раней "Уперад") з 1972 па 2000 г. Узначальваў літаб'яднанне "Сувеццe" (між іншым, назву аб'яднанню даў менавіта ён). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў з 2007 г.

Друкаваўся ў газетах, часопісах, калектыўных зборніках паэзіі. Аўтар паэтычных кніг "Прасветленасць" (1981), "На схілах берагоў" (1997), "Кругазварот жыцця" (2011), а таксама кніг прозы "Лясная рапсодыя" (2013), "Зігзагі лёсу" (2016).



Павіншаваць паэта прыйшлі сябры, калегі па пяру. Гучалі віншаванні, у т.л. ад сённяшняга кіраўніка "Сувеццe" Алеся Хітруна, вершы У. Васько, песні ў выкананні Сяржука Чарняка. Завяршылі імпрэзу "Sto lat...", не чужыя і беларусу.

***Яраслаў Грынкевіч.***

# Беларускія кніжкі - у беларускія садкі





19 студзеня прадстаўнікі грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!" і Саюза беларускіх пісьменнікаў завіталі ў Ліду, дзе наведалі дзіцячыя садкі з беларускай мовай навучання.

Адміністрацыі ўстаноў адукацыі "Яслі-сад № 24" і "Яслі-сад № 35" было перададзена болей за 40 дзіцячых кніг і набораў паштовак 11-ці найменняў, у тым ліку паштоўкі і календары з серыі "Не маўчы па-беларуску!".

Усе дзеткі засталіся задаволеныя такімі падарункамі са сталіцы.

***Прэс-служба СБП.***

# Дзень здароўя ў Баранавічах





Сябры Баранавіцкай арганізацыі ТБМ 14 студзеня правялі Дзень здароўя на сваёй сядзібе ў Русінах. Запрашалі ўсіх ахвочых. Сабралася чалавек 50-60. Лыжня была пракладзена ад сядзібы ТБМ па полі і заснежаным лесе. Некалькі дзясяткаў чалавек прынялі ўдзел у спартыўным забегу, іншыя - каталіся з дзецьмі на санках. А хто стаміўся, частаваліся блінамі і гарбатай ды спявалі беларускія песні. Яся Малашчанка іграла на флейце. Галіна Ярашэвіч загадвала загадкі. Тамара Патоцкая і Тамара Зверава пяклі бліны і гатавалі пачастункі. Арганізатар мерапрыемства паэт Алесь Бакач.

Дзеці і дарослыя разыходзіліся ўзрушаныя і задаволеныя цікава праведзеным днём.

Дзень здароўя на сядзібе ТБМ у Русінах адбываўся другі год і мяркуецца, што будзе ладзіцца і далей.

*Мікалай Падгайскі.*

# Археалогія з Анатолем Седзіным

У магілёўскага ТБМ існуе даўняя традыцыя ў халодную пару года наведваць гарадскія музеі і выставы. 15 студзеня 2017 г. мы рушылі ў абласны краязнаўчы музей імя Еўдаміка Раманава на экскурсію па экспазіцыі "Археалогія і старажытная гісторыя". Нашым правадніком быў вучоны сакратар музея і прафесійны археолаг (што вельмі істотна ў дадзеным выпадку) спадар Анатоль Седзін.

На пачатку экскурсу мы пабачылі стэнд, прысвечаны выбітным беларускім археолагам, якія аддалі сваё жыццё вывучэнню роднага краю, і ў тым ліку нашай Магілёўшчыны: Канстанцін Палікарповіч, Аляксандар Ляўданскі, Еўдакім Раманаў, Аляксандар Каваленя, Васіль Тарасенка… Пачулі шмат цікавых фактаў пра жыццё і дзейнасць старажытнага чалавека, пра незвычайных жывёлаў, першыя археалагічныя стаянкі ў падняпроўскім краі. Напрыклад, самая старажытная стаянка на тэрыторыі Магілёва адносіцца да эпохі мезаліту, якая ў свой час была даследавана Е. Раманавым і В. Капыціным. Непаўторныя ўражанні засталіся ад расповеду пра гарадзішча Нікадзімава, якое ўжо 10 год даследуе непасрэдна сам Анатоль Седзін. У гэтым невялікім мястэчку ў Горацкім раёне спадаром Анатолем быў адшуканы самы старадаўні меч на тэрыторыі Беларусі.

Дзве гадзіны працягвалася размова пра нашу старажытную гісторыю. Большасць з тых магілёўцаў, якія наведалі наша мерапрыемства канстатавалі той факт, што яны упершыню (!) наведалі гэтую экспазіцыю і многія нават і не ведалі, што ў нас у Магілёве ёсць такія цікавосткі ў краязнаўчым музеі. У бліжэйшы час плануем наведаць наступную частку найстарэйшага музея Магілёўшчыны.

*Алег Дзьячкоў, Магілёў.*

# Семінар-практыкум







Дзяржаўная ўстанова "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці", ужо ў трэці раз, на базе аддзела рамёстваў і традыцыйнай культуры ладзіць раённы семінар-практыкум "Адраджэнне пабытавых танцаў. Традыцыя. Сучаснасць".

Музыкі былі запрошаны адны з лепшых у раёне: кіраўнік народнага ансамбля народнай музыкі "Гудскі гармонік" Андрэй Колышка і акампаніятар фальклорнага гурта "Талер" Анатоль Шут.

Развучваліся полькі (танцы нашага рэгіёна): "Дробная", "Трасуха", "Карэла-фінская", а таксама танец "Акуліна". Майстар-клас давалі ўдзельнікі фальклорнага гурта "Ігнаткаўскія весялухі" Голдаўскага клуба-бібліятэкі. Трэба сказаць носьбіты не толькі вучылі танцавальным рухам і крокам, але яшчэ Дар'я Каспорская (якой споўнілася 90 год) і крыху маладзейшая Надзея Гомза, пільна сачылі за



асвойваннем танцу.

І вось, ўрэшце рэшт, танцы былі вывучаны. Строгае журы, з вышэй названых асоб, выносіць свой вердыкт - справіліся. Шмат кампліментаў пачулі работнікі сельскіх устаноў культуры ў свой адрас у гэты дзень ад "Ігнаткаўскіх весялух". І відавочна было, што яны робяць добрую справу, зберагаючы народнае танцавальнае мастацтва. Нездарма ж абласны конкурс побытавых танцаў "Танцуем па-даўнейшаму" пройдзе ў бягучым годзе ў нашым раёне 28 траўня, у аграгарадку Тарнова.

*Ганна Некраш.*

Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік

**Заснавальнік:** ТБМ імя Францішка Скарыны.
**Пасведчанне аб рэгістрацыі** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
**Адрас рэдакцыі:** 231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
**Адрас для паштовых адпраўленняў:** 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
**E-mail:** naszaslowa@tut.by

**Рэдакцыйная калегія:**
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Юля Бажок, Марыя Баравік, Аляксей Карпенка, Эла Оліна, Ігар Пракаповіч, Аляксей Пяткевіч, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў, Дзяніс Тушынскі, Аляксей Шалахоўскі.

http://naszaslowa.by/ http://pawet.net/
http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/
http://nashaslova.mns.by/

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 30.01.2017 г. у 17.00. Замова № 190.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1500 асобнікаў.
**Падпісны індэкс:** 63865.
**Кошт падпіскі:** 1 мес.- 1,24 руб., 3 мес.- 3,72 руб.
**Кошт у розніцу:** па дамоўленасці.